# Газета для вас

ІВАЦЭВІЧЫ-БАРАНАВІЧЫ-БЯРОЗА-ПРУЖАНЫ-ДРАГІЧЫН

15 — 21 чэрвеня 2001 г.

№ 24 (287)

Грамадска-палітычны штотыднёвік, выдаецца са студзеня 1997 года




## СЁННЯ Ў НУМАРЫ:

**Нет сигарет — нет проблем**

На Дрогичинщине принято решение о запрете курения в служебных, бытовых и производственных помещениях.

2-я стар.

**Исчезновение или политический терроризм**



Прошло два года как бесследно исчез генерал Юрий Захаренко, видный представитель белорусской оппозиции.

Сегодня Ю. Захаренко мог бы быть идеальным кандидатом в президенты.

3-я стар.

**Рыцарские забавы XXI века**



9—10 июня в г. Мядель состоялся первый национальный рыцарский турнир "Меч Гедимина". Количество приехавших было немалым. В числе официальных участников значился и клуб "Блудэнская харугва" из Березовского района и корреспондент "Газеты для вас" Николай Синкевич.

5-я стар.



Святаслаў КАЖАДУБ.

# "ЗДАРОЎЕ — ДАРАЖЭЙ ЗА ЗОЛАТА"

**Гэтую простую і ўсім зразумелую ісціну, якую выказаў некалькі стагоддзяў таму вялікі англійскі драматург Вільгельм Шэкспір, хочацца нагадаць напярэдадні прафесіянальнага свята медыкаў — 17 чэрвеня.**

У нялёгкіх умовах працуюць яны паўсюдна. Што ж тычыцца ружанскіх медыкаў, то яны вельмі сур'ёзна адносяцца да сваіх абавязкаў. Як сказаў нам галоўны ўрач Ружанскай бальніцы М. М. Максімаў, у іх зараз працуе 160 чалавек. З гэтай колькасці 17 урачоў і 72 сярэдніх медыцынскіх работніка.

Нягледзячы на недастатковае фінансаванне, нізкую зарплату, усе без выключэння работнікі старанна адносяцца да сваіх абавязкаў.

У ліку самых прыкметных медыкаў Ларыса Уладзіміраўна Громак (на здымку), рэнтген-лабарант. 18 гадоў яна ўжо ў медыцыне. Работа, на першы погляд, нескладаная, але ад яе залежыць далейшы лёс хворага. Яшчэ не было ніводнага выпадку, каб Ларыса Уладзіміраўна кагосьці падвяла...

**Святаслаў КАЖАДУБ.**

**г. п. Ружаны.**

## Хто будзе ў складзе камісіі?

**ІВАЦЭВІЧЫ.** Тое, хто будзе ў складзе раённай выбарчай камісіі па выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, востра хвалюе жыхароў раёна. Вопыт мінулых выбарчых кампаній паказвае, што ў склад яе звычайна трапляюць чыноўнікі розных рангаў. Таму групы грамадзянаў райцэнтра вылучылі ў склад раённай выбарчай камісіі па выбарах прэзідэнта сваіх прадстаўнікоў, неангажыраваных уладамі, — жыхароў Івацэвічаў Леаніда Мікалаевіча Русака і Віктара Аляксандравіча Гейца. Калектыў Івацэвіцкага прыборабудаўнічага завода вылучыў у склад гэтай жа камісіі Людмілу Андрэеўну Дрык. Аднак рашэнне аб уключэнні названых грамадзянаў у склад раённай камісіі па выбарах прэзідэнта будуць прымаць Івацэвіцкія райвыканкам і райсавет. Аб гэтым рашэнні мы паведамім у бліжэйшым нумары. Сачыце за газетай.

**Іван ВАБІШЧЭВІЧ.**

## Клешчавы энцэфаліт "стартаваў" у Бярозе

**БЯРОЗА.** Першыя захворванні на клешчавы энцэфаліт зарэгістраваны ў Бярозе. Бабуля і двое яе ўнукаў, 11 і 15 гадоў, заразіліся ад інфіцыраванага казінага малака.

Як паведаміў нашаму выданню Мікалай Якаўчык, галоўны санітарны ўрач Бярозаўскай РЦГЭ, сімптомамі захворвання з'яўляюцца павышэнне тэмпературы, моцны галаўны боль, ірвота. Мікалай Фёдаравіч звярнуў увагу на тое, што цяпер вельмі важна абмежаваць паходы дзяцей у лес, тым больш, што кляшчоў у гэтым годзе ў лесе як ніколі многа.

**Дзмітрый МАКАРЭВІЧ.**

## Каму "Шкода" — каму не

**ІВАЦЭВІЧЫ.** Івацэвіцкі райвыканкам нядаўна набыў новенькі зухаваты аўтамабіль "Шкода-Актавія", на якім рухаецца па раёне і за яго межамі старшыня А. А. Няхаеў. Кошт аўтамабіля — каля 15000 долараў, і з ім цяжка канкурыраваць усім тым "УАЗікам" і "Волгам", якімі запоўнены райвыканкамаўскі гараж.

Хто сказаў, што ў дзяржаўным бюджэце няма грошай? Што нарыхтоўкай сена з-за недахопу сродкаў павінны за свой кошт займацца нават гараджане?

**Васіль БЕДНЫ.**

ЧАС РЭСПУБЛІКІ

## ЗВАРОТ

**Кансультацыйнага савета апазіцыйных палітычных партый да грамадзян Рэспублікі Беларусь**

На 9 верасня прызначаны першы тур выбараў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Краіна прыйшла да іх ў стане глыбокага эканамічнага, палітычнага і канстытуцыйнага крызісу. За час праўлення Лукашэнкі гадавая інфляцыя ў сярэднім складала 550 %, што азначае - цэны кожны год раслі ў сярэднім больш чым у 5 разоў. Эксперымент праваслаўнага атэіста па будаванню рынкавага сацыялізму з трэскам праваліўся. Чалавек, які мае ўласныя гонар і сумленне, ужо даўно сышоў бы з пасады і перадаў бы ўладу мірным і дэмакратычным шляхам дасведчаным, адукаваным і сумленным грамадзянам Рэспублікі Беларусь. Дарэчы, Лукашэнка ўсенародна абяцаў гэта зрабіць падчас мінулай выбарчай кампаніі.

Але ён усялякімі спосабамі чапляецца за ўладу і не жадае ісці на чэсныя дэмакратычныя выбары. Аб гэтым сведчаць так званыя выбары ў так званую палату прадстаўнікоў, падчас якіх была нахабная татальная фальсіфікацыя, што і пацвердзілі наглядальнікі і аўтарытэтныя міжнародныя арганізацыі. Галоўным інструментам фальсіфікацыі сталі прымусовае датэрміновае галасаванне, недапушчэнне незалежных людзей у выбарчыя камісіі, перашкоды і запалохванне незалежных назіральнікаў.

Грамадзяне Беларусі заслугоўваюць справядлівых і чэсных выбараў. Для гэтага, як мінімум, неабходна:

— спыніць практыку папярэдняга галасавання без пісьмовага абгрунтавання матываў немагчымасці галасавання; любыя падштурхоўванні да датэрміновага галасавання лічыць злачынствам;

— уключыць ва ўсе выбарчыя камісіі ўсіх узроўняў прадстаўнікоў апазіцыйных палітычных партый;

— забяспечыць умовы работы назіральнікаў у адпаведнасці з крытэрыямі АБСЕ.

Кансультацыйны савет апазіцыйных палітычных партый заклікае грамадзян Беларусі актыўна садзейнічаць правядзенню свабодных, дэмакратычных выбараў, паставіць рашучы заслон на шляху фальсіфікатараў народнага волевыяўлення.

ГРАМАДЗЯНЕ БЕЛАРУСІ! ВАША ВОЛЯ - ВАШ ЛЁС!

**Старшыня паседжання КСАПП**
**Леанід ЛЕМЯШОНАК.**

**8 чэрвеня 2001 г.**

## ЗАЯВЛЕНИЕ

**Консультативного совета оппозиционных политических партий о нарушениях избирательного законодательства на начальном этапе президентской кампании в Республике Беларусь**

8 июня 2001 года началось формирование территориальных избирательных комиссий по выборам Президента Республики Беларусь. Только на пятый день начала семидневного срока подачи заявлений в территориальные избирательные комиссии были опубликованы соответствующие формы протоколов. После чего последовали и другие нарушения избирательного законодательства. Власти на местах стали под разными предлогами препятствовать регистрации представителей политических партий в состав избирательных комиссий.

По данным Межпартийного центра по выдвижению представителей в состав избирательных комиссий, 7 июня ряд исполкомов (Бобруйский, Шарковщинский, Оршанский, Новогрудский и другие) отказались в этот день принимать протоколы о выдвижении представителей от политических партий в состав территориальных избирательных комиссий, что является нарушением действующего законодательства. В ряде регионов имели место факты административного давления со стороны высших чиновников на граждан, которые отдали свои подписи за кандидатов в члены избирательных комиссий. К примеру, в Ошмянском районе председатель исполкома В.Б. Кудырко угрожал и требовал отзыва подписей, собранных в поддержку М. С. Матвейко.

Тем не менее, оппозиция оказалась подготовленной даже к этому беззаконию. По данным Межпартийного центра, в Беларуси уже зарегистрировано свыше 400 протоколов о выдвижении представителей демократических сил в избирательные комиссии.

Консультативный совет оппозиционных политических партий требует от Центральной избирательной комиссии прекратить незаконное противодействие включению представителей демократических сил в избирательные комиссии всех уровней и обращает внимание прокуратуры на вышеизложенные факты нарушения законов.

Просим КНГ ОБСЕ довести до сведения соответствующих структур ОБСЕ и других международных организаций информацию о грубых нарушениях избирательного законодательства на самом начальном этапе избирательной кампании.

**Председательствующий на заседании**
**Станислав ШУШКЕВИЧ**

**13 июня 2001 года.**

# НЕТ СИГАРЕТ — НЕТ ПРОБЛЕМ,

## считает главный врач Дрогичинского РЦГиЭ Михаил Стахейко

**ДРОГИЧИН. По инициативе районного центра гигиены и эпидемиологии в городе и районе полностью запрещено курение в служебных, бытовых и производственных помещениях.**

**Рассказывает Михаил Стахейко, главный санитарный врач Дрогичинского РЦГиЭ:**

— Нас не смущает то, что никто до сих пор в области подобного распоряжения не принимал и что наступление на права курильщиков кто-то путает с наступлением на права человека. Ведь курящий человек травит не только себя, но и окружающих; пассивное курение, когда человек не курит, но вынужден дышать дымом, очень вредно.

Кто-то должен был начать всё это первым. К примеру, в США, после того как государство взялось за решение этого вопроса, три курильщика из четырех отказались от этой привычки. Вот это подход!

Прекрасным примером для всех нас должен служить пример руководства нашего района: председатель райисполкома и все его пять заместителей — некурящие.

Первым делом мы потребовали, чтобы во всех бытовых, служебных и производственных помещениях сняли таблички "Место для курения", убрали пепельницы. Курить теперь можно только на улице. Мы выяснили, что главный инженер районных электросетей, а также главный инженер Дрогичинского автопарка увлекаются этим делом на рабочем месте. Мы ходатайствуем о привлечении этих людей к дисциплинарной ответственности.

**Дмитрий МАКАРЕВИЧ.**

# Якое здароўе нашых дзяцей?

## Прычына для хвалявання

**ДРАГІЧЫН.** Гэта пытанне хвалюе не толькі бацькоў, але і ўсё грамадства. Хто прыйдзе нам на змену, якім будзе здароўе нацыі? Каб адказаць на гэтыя пытанні, звернемся да лічбаў.

Восенню мінулага года ў раёне было абследавана 3372 школьнікі. Розныя захворванні былі выяўлены ў 1776 з іх: у 480 — эндакрынныя парушэнні, у 323 — праблемы з сардэчна-сасудзістай сістэмай, у 105 — скалеёз, у 290 — паніжаны зрок, у 60 — хранічны танзіліт і г. д.

Як бачым, у нас амаль 53 працэнты хворых дзяцей. Сумная і трывожная статыстыка.

**Анатоль ДРАНЧУК.**

# Хто прысвойвае, а хто дае

## Пра хабар і крадзяжы

**ДРАГІЧЫН.** Не спяць у шапку праваахоўныя органы раёна. Імі выяўлены факт дачы хабару (гарэлка, харчовыя тавары) памочніку санурача Драгічынскага РЦГіЭ П. ад загадчыцы магазіна "Лідзія", што ў Антопалі. Хабар быў дадзены за тое, што работнік санітарнай службы не стаў складаць пратакол аб парушэннях правілаў гандлю ў гэтай краме. Узбуджана крымінальная справа.

Яшчэ адзін факт меў месца ў магазіне вёскі Толкава. Загадчыца гандлёвай кропкі, як яна сама прызналася, пачынаючы з лютага гэтага года, своеасаблівым чынам прывытызавала магазін і прысвоіла дзяржаўных грошай, а таксама розных тавараў на суму больш як мільён рублёў.

Па абедзвюх справах ідзе следства, вінаватыя будуць пакараны.

**Галіна АЛЯКСЕЕВІЧ.**

# Кому верит и чего хочет нынешняя молодежь?

**БАРАНОВИЧИ.** Рекламное агентство "Дара" провело анкетирование выпускников барановичских школ на предмет их желания работать в тех или иных фирмах, организациях, на предприятиях. Отвечая на этот вопрос, они как бы давали оценку деятельности этим структурам. Останавливая свой выбор на том или ином предприятии, они тем самым высоко его оценивали, считали платежеспособным и стабильным.

Больше 50% молодых людей выбрали станкостроительный завод "Атлант", упоминался авиаремонтный и завод бытовой химии.

Почти 11% выпускников хотели бы стать банкирами. Никто не пожелал идти работать в госорганы. Меньше двух процентов хотело бы оказаться в медицинских учреждениях. Зато рейтинг налоговой инспекции, милиции, суда, прокуратуры достаточно высок.

Среди частных фирм лидирует агенство "Дело", ПКФ "Аист", "Альфа", "Дельфа", "Золушка".

О каких зарплатах мечтает молодежь? 28 % надеются получать по 150 долларов, 21% — 200. А вот еще 20% опрошенных желают иметь за свой труд не менее 300 американских долларов. И только у 14% выпускников запросы невелики — 100 долларов им вполне достаточно.

**Галина СТРОЦКАЯ.**

# Фильм покинул город

**БАРАНОВИЧИ**. Нашумевший фильм белорусского режиссера Михаила Пташука "В августе 44-го..." покинул Барановичи. Напоминаю, что эта лента удостоена гран-при X Международного кинофестиваля славянских народов "Золотой витязь". Но в Барановичах картину посмотрели только 100 человек. Увы...

**Галина СТРОЦКАЯ.**

# РЫНКАВАЯ ПЛОШЧА

**Цэны на прадуктовых рынках нашага рэгіёну па стану на 13.06.2001 г. (у руб. за адзін кілаграм):**

| | Івацэвічы | Баранавічы | Бяроза | Пружаны | Драгічын |
|---|---|---|---|---|---|
| Свініна | 2500—3000 | 2500—4000 | 2500—3600 | 2500—3700 | 2600—3000 |
| Сала салёнае | 1900—2500 | 1800—2800 | 2200—2500 | 2600 | 2700 |
| Алей (1 л) | 800—1100 | 800—1100 | 750—950 | 800—1200 | 900—1200 |
| Яйкі | 850—900 | 800—1000 | 900—1000 | 1000 | 1000—1050 |
| Малако (3 л) | 600 | 600 | 600 | 680 | 630—670 |
| Шпроты | 450—470 | 400—420 | 500 | 400—450 | 570 |
| Масла сметанк. | 2200 | 2000 | 2000. | 2000 | 2100 |
| Бульба | 100 | 100—120 | 100 | 100—120 | 110—120 |
| Цыбуля | 500 | 450 | 500 | 500 | 450 |
| Морква | 350 | 300 | 300 | 350 | 350 |
| Капуста | 700 | 1000 | 800 | 1000 | 1000 |
| Памідоры | 1700 | 1700—2000 | 1600 | 2000 | 1400 |
| Буракі | 60—80 | 120—140 | 60—80 | 80 | 90 |
| Чарэшня | 3000 | 1500—2500 | 3000 | — | 3000 |
| Грэцкія арэхі | 1800 | 2000 | 1500 | 1300—2100 | 1800 |
| Яблыкі | 800—1500 | 700—1500 | 800—1300 | 800—1500 | 800—1000 |
| Маянэз | 250—400 | 240—420 | 250—420 | 270—450 | 250—520 |
| Вінаград | 5000 | 3800—5000 | 3800—4500 | 4500 | 4000—4700 |
| Агуркі | 600—800 | 700—900 | 700—900 | 800 | 800 |
| Часнок | 1900—2000 | 1800 | 2000 | 1800 | 1300 |
| Лімоны | 1400—1600 | 1400—1600 | 1600 | 1600 | 1100 |
| Апельсіны | 1500—1800 | 1200—1300 | 1300 | 1350 | 1600 |
| Бананы | 1100—1200 | 1000—1200 | 1000—1300 | 1300 | 1200 |
| Клубніцы | 2000 | 2800—3000 | 3000 | 3000 | 2800 |
| Грэчка | 550—600 | 650 | 650 | 660 | 630 |
| Макар. вырабы | 550—650 | 500—600 | 580—650 | 500—600 | 670 |
| Рыс | 500—550 | 500—520 | 550 | 560 | 600 |
| Манныя крупы | 500 | 460 | 500 | 540 | 530 |
| Проса | 350—400 | 330 | 380 | 400 | 380—400 |
| Цукар | 580 | 600 | 600 | 610—640 | 600 |
| Мёд | 4.000 | 4.000 | 4.000 | 4.000 | 4.000-4.100 |

**ВАЛЮТА НА "ЧОРНЫМ" РЫНКУ (руб.)**

| | купля | продаж | купля | продаж | купля | продаж | купля | продаж | купля | продаж |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 долар ЗША | 1400 | 1450 | 1380 | 1410 | 1400 | 1450 | 1400 | 1450 | 1400 | 1450 |
| 1 дойчмарка | 595 | — | 580 | 610 | 590 | 610 | 587 | 610 | 590 | 610 |
| 1 рубель Расіі | 45 | — | 44 | 46 | 44 | 49 | 46 | 49 | 46 | 49 |

# Пачым парасяты?

**ІВАЦЭВІЧЫ**
50000—65000 (за пару);

**БАРАНАВІЧЫ**
65000—85000 (за пару);

**БЯРОЗА**
50000—65000 (за пару);

**ПРУЖАНЫ**
55000—65000 (за пару);

**ДРАГІЧЫН**
50000—70000 (за пару).



# ЮРИЙ ЗАХАРЕНКО:

## ИСЧЕЗНОВЕНИЕ ИЛИ ПОЛИТИЧЕСКИЙ ТЕРРОРИЗМ?



Юрий Захаренко мог быть реальным кандидатом в президенты РБ.

**Прошло два года, как он бесследно исчез. Тогда, в первые дни и недели, многие не могли до конца поверить в трагическую реальность, в которой оказалась страна. Прозрение наступает очень медленно.**

Юрий Николаевич был человеком талантливым, двигался по служебной лестнице довольно быстро. За 12 лет он прошел путь от рядового следователя до заместителя начальника Гомельского областного УВД. Затем возглавлял Следственный комитет МВД, а в 1994 г. был назначен министром внутренних дел.

Он был человеком красивым. Не только внешне, хотя это тоже важно для политика. Много существеннее, что он был красив своими поступками. Он обладал качеством, которое начисто отсутствует у нынешней белорусской номенклатуры - чувством собственного достоинства. А это, по законам того политического режима, который начал тогда формироваться в стране, - смертный грех. А в сочетании с талантом и даже некоторой харизмой возникала вообще гремучая смесь. Рано или поздно он должен был выпасть из руководящей обоймы. Лукашенко не мог терпеть вокруг себя ярких людей, выделяющихся из серой номенклатурной массы.

На посту министра внутренних дел Ю. Захаренко проработал чуть больше года. Его конфликт с Лукашенко развивался постепенно. Он отказал управляющему делами президента И. Титенкову в его просьбе послать солдат внутренних войск для работ на президентскую дачу, объяснив, что функции этих войск совсем другие. Что вызвало возмущение у самого Лукашенко. "Разве жуликов каких-то приводить работать на президентскую дачу?" - возмущался он после отставки министра.

Позже Юрий Николаевич вспоминал: "Наверное, я остался одним из немногих, кто говорил ему правду. Ту правду, нехорошую правду, которая била по самолюбию президента, но я говорил ее... Когда мы разговаривали с президентом, он сказал мне: ты должен выполнить любой мой приказ. Я ему говорю: Александр Григорьевич, людей расстреливать не буду, Конституцию нарушать не буду. А он тогда: если ты не выполнишь любой мой указ, тебе наденут наручники. Это стиль руководства президента. Более слабые ломались".

Это было столкновение не просто разных стилей управления. Речь шла о разном понимании роли закона, права в государстве, роли государственного чиновника. Кто такой госслужащий: нанятый народом управленец или вассал, подданный президента, "человек государев", как выразился один из следующих министров внутренних дел Ю. Сиваков? Это был конфликт ценностей и мировоззрений. Но одновременно это было непримиримое противоречие людей с разными, диаметрально противоположными моральными качествами. "Лично я с Лукашенко в разведку не пойду, - говорил Ю. Захаренко, - потому что он не способен на настоящую мужскую дружбу и чистоту отношений...Этот человек способен на клевету, обман и любую авантюру ради достижения своих тщеславных целей. Но вместе с тем панически труслив. Получает неописуемое удовольствие и прилив энергии от насилия, унижения человеческого достоинства. Лукашенко патологически мстителен". ("Свабода", 17 мая 1996 г.). Поэтому личный и политический конфликт между этими людьми был не просто неизбежен, а даже запрограммирован.

Последней каплей, переполнившей чашу терпения Лукашенко, был публичный протест Ю. Захаренко против указа президента, предусматривающего ликвидацию льгот работникам МВД. Это послужило поводом к отставке и одновременно обеспечило ему большую популярность среди сотрудников милиции. Лукашенко был напуган не на шутку. Испуг проявился в том, что в день отставки к кабинету министра был направлен вооруженный взвод ОМОН, словно Ю. Захаренко собирался отстреливаться до последнего патрона. И. о. министра был назначен не один из заместителей, как обычно бывает при временной вакансии, а секретарь Совета безопасности, ближайшее доверенное лицо президента В. Шейман. Этот страх Лукашенко перед Юрием Николаевичем сохранился навсегда и сыграл роковую роль в судьбе опального министра.

На следующий день, выступая перед руководством МВД, Лукашенко обвинил Ю. Захаренко в заговоре, связи с коммерческими структурами, личной корысти и других смертных грехах, перешел на личные оскорбления. Юрий Николаевич мог бы простить обвинения в служебных упущениях, недостатках и ошибках в работе. Но высоко ценимое им чувство собственного достоинства не позволило снести личные оскорбления. "Честь имею", - сказал генерал и объявил войну Лукашенко и его политическому режиму.

Ю. Захаренко не собирался становиться политиком. У него было свое призвание, профессия, которую он любил, достиг в ней высокой степени совершенства и не собирался ее менять. В политику его вытолкнули едва ли не силой.

В стан противников режима люди приходят поразному. Одни - по идейным убеждениям, другие - в результате логики политической борьбы. Ю. Захаренко пришел в оппозицию, защищая свое человеческое и офицерское достоинство. Несчастна страна, где человеку для защиты своего доброго имени остается единственный способ - стать в ряды оппозиционных политиков. Это был одновременно политический и человеческий, нравственный выбор между добром и злом, честью и подлостью.

Экс-министр вступил в ОГП, вошел в руководящие органы партии: Национальный комитет и Политсовет. Его первой атакой на режим была апелляция к Верховному Совету 13-го созыва. Дело в том, что по Конституции 1994 г. назначение на должность министра внутренних дел и его освобождение могло осуществляться президентом только с согласия парламента. В момент отставки Ю Захаренко Верховный Совет 12-го созыва уже не действовал, а новый еще не был избран. И с началом работы нового состава парламента вопрос об утверждении указов президента о смене министра был поставлен на его обсуждение. Юрий Николаевич выступил с пламенной речью, но большинство депутатов оказалось к ней глухо. Верховный Совет сдал Ю. Захаренко, что дорого обошлось парламенту позднее, осенью 1996 г.

Ю. Захаренко активно участвовал в противостоянии между Лукашенко и Верховным Советом накануне ноябрьского референдума 1996 г., организовывал Конгресс в защиту демократии, был ближайшим соратником вице-спикера парламента Г. Карпенко.

После печально известного референдума Юрий Николаевич в силу характера поддерживал наиболее решительные методы борьбы, поэтому и оказался союзником В. Гончара, разрабатывавшего сценарии, предусматривавшие обострение политической ситуации. Он участвовал в работе специальной комиссии по правовой оценке нарушений президентом РБ А. Лукашенко Конституции и законов Республики Беларусь.

В силу своего неуемного темперамента он с головой окунулся в кампанию по выборам президента, организованную оппозицией весной 1999 г. Он вошел в команду М. Чигиря, ездил по стране, организовывал группы по сбору подписей, создавал очаги сопротивления режиму.

Президентская кампания 1999 г. раскачала ситуацию в стране, стала кульминацией противоборства между властью и оппозицией. Вопрос о легитимности Лукашенко и истечении срока его полномочий стал предметом дискуссии в СМИ. Режим всерьез опасался даты 20 июля - дня окончания президентского мандата главы государства по Конституции 1994 г. Решающую роль в противоборстве с оппонентами играли силовые структуры. Генерал Ю. Захаренко был весьма авторитетен среди сотрудников МВД. Он завязывал контакты с офицерами, пытался апеллировать к руководящему составу правоохранительных органов. Экс-министр создал Союз офицеров, который, по его предположению, должен был сыграть важную роль в решающий день.

Ю. Захаренко становился самым опасным для режима человеком в стране в самый критический момент. И у кого-то очень важного в руководстве государства не выдержали нервы. Он сильно испугался и решил нанести превентивный удар.

И Ю. Захаренко исчез.

Сегодня Ю. Захаренко мог бы быть идеальным кандидатом в президенты. Не так много в белорусской политике людей, способных на поступок. Красивый, смелый и решительный генерал, выступающий с идеей "честности, решительности, порядка" мог бы завоевать симпатии большинства населения. И вопрос о едином кандидате отпал бы сам собой.

История все расставит по своим местам. Вряд ли у кого есть сомнения, что в будущей демократической Беларуси будет увековечена память Г. Карпенко, Ю. Захаренко, В. Гончара. Их именами назовут улицы, площади. Они вошли в историю как яркие символы Движения Сопротивления антидемократическому режиму.

*Валерий* **КАРБАЛЕВИЧ.**

---

ДЗЕ? ДЗЕ? ДЗЕ?

7 ліпеня мінае год, як знік наш калега – тэлеаператар



Рэпарцёры — не палітыкі. Журналісты — не суддзі. Але зафіксаваныя рэпарцёрамі факты наўмысна ці неспадзявана выносяць прысуд нават таму, што палітыкі імкнуцца схаваць ад людскіх вачэй. Няма рэпарцёра — няма суда? Дзе Дзмітрый Завадскі? Хто і па якім праве распараджаецца яго лёсам?

Беларуская Асацыяцыя Журналістаў патрабуе праўды!

Дзмітрый ЗАВАДСКІ ДЗЕ?

---

# Што для беларуса даражэй за ўсё?

### Адказваюць жыхары г. п. Ружаны



**ОЛЯ І ГАЛЯ:** Мы пакуль што вучымся ў школе. Для нас даражэй за ўсё нашы родныя, бацькоўскі дом, Радзіма. Нашы бацькі працуюць, а зарплата мізэрная, таму забяспечыць нас, дзяцей, усім неабходным, на жаль, не могуць.



**ІВАН ІВАНАВІЧ:** Для мяне сёння самым важным з'яўляецца маё здароўе. Я, былы чарнобылец, павінен быў па стану здароўя пайсці на пенсію ў 55 гадоў, але наш любімы прэзідэнт адмяніў 19-ы артыкул, які даваў такую магчымасць. Таму і хвораму прыходзіцца яшчэ працаваць.



**АЛЯКСАНДР ІОСІФАВІЧ:** Мне ўжо 77 гадоў. Жыву сам. Пенсія невялікая. За апошнія сем гадоў маё жыццё не палепшылася. А хочацца мець забяспечаную старасць. Не атрымліваецца. Ды і ўся Беларусь пакутуе. Таму для мяне сёння не стаіць пытанне, за каго галасаваць на выбарах.



**АЛЯКСАНДР:** Толькі мая сям'я і родная краіна. У мяне двое малых дзяцей. Жонка ў дэкрэтным водпуску. Таму ўсе клопаты пра сям'ю ляжаць на мне. Прыходзіцца працаваць на паўтары стаўкі, каб пракарміць сям'ю. Гэта, так сказаць, асноўны клопат.



**НІНА УЛАДЗІМІРАЎНА:** Мне, як любому, сёння важна, як мы жывём, колькі зарабляем. Гэта для мяне штодзённы клопат, каб неяк выжыць. Вядома, хацелася б, каб увесь народ быў здаровым і шчаслівым. Але выбары прэзідэнта не хвалююць, бо наўрад нешта зменіцца ў нас...

**У народ хадзілі Святаслаў КАЖАДУБ і Андрэй МАЦУКЕВІЧ (фота).**

# РУЖАНСКІ ПАЛАЦ

Ружаны — старажытнае беларускае мястэчка. У гістарычных дакументах упамінанне аб Ружанах ёсць у запісах у 1481, а таксама ў 1525 годзе. Назвы мястэчка таго часу такія: Ружаны, Ражаны, Ражаная.

Ёсць таксама звесткі, што ў канцы XVI стагоддзя, а дакладней у 1598 годзе, гэтае мястэчка набыў канцлер Вялікага Княства Літоўскага Леў Сапега. У 1606 годзе тут у яго нарадзіўся сын Крыштаф, а ў 1617 годзе ў палацы гасціваў Каралевіч Уладзіслаў.

Значыць, у пачатку XVII стагоддзя палац у Ружанах ужо існаваў. План першапачатковай забудовы падобна да плана палаца ў Ксёнжы Вялікім (Польшча). Палац у Ксёнжы ўзведзены ў канцы XVI стагоддзя майстрам з Фларэнцыі Санці Гуччы, вучнем вядомага архітэктара Барталамэо Аманці, які на сваіх пабудовах ужываў дэкор "з графіта", рэшткі якога ёсць і на сценах палаца ў Ружанах.

Дарэчы, слова "зграфіта" італьянскае і азначае павыдзіраны. Як падаецца ў рускамоўных крыніцах, гэта "настенное декоративное изображение, выполняемое в два-три цвета процарапыванием и соскабливанием нанесенных друг на друга тонких цветных слоев штукатурки. Рассчитано на декоративный эффект".

Ружанскі і Ксёнжскі палацы падобныя і па комплекснай планіроўцы. Будынак размешчаны паміж шырокім дваром і садам (ёсць у матэрыялах за 1611 год слова "садоўнікі"), а спуск да саду зроблены ў выглядзе ўступаў — гэта італьянскі ўзор планіроўкі. Мажліва і так: альбо сам Гуччы ці яго памочнік з'яўляюцца аўтарамі першага Ружанскага палаца. Пра гэта і сведчаць рэшткі "зграфіта", якія захаваўся. А такая тэхніка роспісу была распрацавана ў XVI стагоддзі ў Фларэнцыі.



**Уязная брама і жылыя флігелі палацавага комплекса ў Ружанах.**

Апісанняў унутранай планіроўкі на сёння шмат. Нагадаем галоўнае. У той час палац меў два паверхі звонку і двухпавярховыя падвалы пад імі. Велічыня, аб'ём гэтых падвалаў такі вялікі, што і сёння існуе меркаванне аб наяўнасці ў тыя часы падземнага ходу аж да Касаўскага палаца ва ўрочышчы Марачоўшчына.

Цэнтральная частка палаца складалася з пышнай парадный залы з вялікім вестыбюлем і трохмаршавай лесвіцай, дзе прымалі вялікіх гасцей.

Палац быў значна разбураны ў 1698 годзе, а таксама ў 1700—1721 гадах. Аднаўляўся паступова, і ў першай палове XVIII стагоддзя з'явілася і новае ў забудове. На яго фасадзе з'явілася некалькі новых дэталяў: ляпная аздоба ў выглядзе выгнутага картуша з букетам кветак і іншае. Аўтар гэтага аднаўлення — каралеўскі архітэктар Я. С. Дэйбель, майстар Саксонскай школы. Так, ён узводзіў палац Сапегаў і ў Варшаве ў 1732 годзе.

Апошняя перабудова другой паловы XVIII стагоддзя пераўзыходзіла ўсе папярэднія. Змянілася абліччa старога палаца, былі ўзведзены будынкі тэатра і манежа, вартоўні, канцылярыі, памяшканне для карцінных галерэі. Аўтар гэтай перабудовы Ян Самуэль Бенер. На сёння звесткі пра яго слабыя: быў прыдворным архітэктарам Сапегаў, меў дом у Ружанах. У 1798 годзе атрымаў ад Сапегаў гадавую пенсію ў 2160 злотых. Мяркуюць, што гаварыў ён па-польску з нямецкім акцэнтам. ("колер чэрвоны до ест мур новэ"). Шмат ён працаваў на маёнтках у Сапегаў у Вялікім княстве Літоўскім (акрамя Ружан, у Дзярэчыне, Друі, Высокім, Вільні). У Бенера былі цесныя сувязі з іншымі архітэктарамі ў Варшаве, Вільні і іншых гарадах.

Рамонт і разбудова палаца вялася ў 1775—1777 гадах. Акрамя палаца, у Ружанах перабудоўваліся царква і кляштар, карчма і шпіталь, капліца на могілках. Стары сад ля палаца быў перапланаваны. З'явіліся летні тэатр, сажалкі, а таксама хлеўчукі для хатняй жывёлы.

Пасля апошняга падзелу Рэчы Паспалітай у 1795 годзе і абмежаванняў Расіі ў адносінах да польскай шляхты і магнатаў, маёнтак паступова ідзе да разарэння. Не ўратоўваюць вызваленне ад прыгону артыстаў тэатра і балета, ні стварэнне нашчадкамі Сапегаў ткацкай, золатавышывальнай, карэтнай і іншых мануфактур. Ідзе продаж няскончаных пабудоў палаца. У 1810 годзе іх поўнасцю прыстасавалі пад суконную вытворчасць.

Удзел Сапегаў у антырасійскім паўстанні 1830—31 гадах дорага ім каштаваў: усе іх маёнткі ў Беларусі былі канфіскаваны.

Усё XIX стагоддзе ў палацы працавала суконная мануфактура, а на пачатку XX стагоддзя пасля занападу суконнай вытворчасці прыйшлі ў заняпад і пабудовы Ружанскага палаца.

Падчас першай сусветнай вайны згарэў галоўны корпус, а ў Вялікую Айчынную вайну — тэатральны флігель. На сёння захаваліся асноўныя пабудовы (галоўны і ўсходні карпусы, аркады, уязная брама і флігелі), фрагменты аздобы інтэр'ераў і канструкцый перакрыццяў.

Ружанскі палац патрабуе пільнай увагі спецыялістаў, метады кансервацыі тут яўна недастатковыя. Відавочна, што архітэктары, якія займаліся перабудовай палаца, імкнуліся надаць яму народную выразнасць. Кампазіцыйная схема захавалася, змянілася толькі аздоба.

Так, зграфіта фасадаў 17 стагоддзя праз сотню гадоў была пакрыта лянным дэкорам, а потым яшчэ цераз 50 гадоў — новым напластаваннем. Усе яны захаваліся ў значных аб'ёмах, але адкрываюцца ў месцах выпадковых пашкоджанняў.

Мэтазгодна, напэўна, музейнае захаванне палацавага дэкору розных часоў і поўная рэстаўрацыя апошняга перыяду яго існавання. Гэта жамчужына нашай старадаўняй культуры.

**Мікалай ВОЛЧЫК, настаўнік гісторыі Зеляневіцкай СШ Пружанскага раёна.**

# "Ёсць на Палессі канал"

Пад такім загалоўкам наша газета ў мінулым годзе апублікавала серыю матэрыялаў, у якіх расказвалася пра Агінскі канал, яго будаўніцтва, эксплуатацыі, аб падзеях, звязаных з гэтай воднай магістраллю, што знаходзіцца на тэрыторыі Івацэвіцкага і Пінскага раёнаў.

Змяшчаліся таксама ўспаміны старажылаў з Целяханаў, Выганашч, Моталя, якія цягалі плыты па канале, а таксама ўдзельнікаў бою на дзесятым шлюзе Агінскага канала (за возерам Выганашчанскім) у гады Вялікай Айчыннай вайны. Шмат было і розных здымкаў; самога канала ў розных месцах, старажылаў, якія працавалі на канале.

Пра мяркуемую будучыню Агінскага канала газета таксама пісала. Яго трэба абнавіць (калі паявяцца сапраўдныя спонсары) і зрабіць турыстычным шляхам і для сваіх людзей, і для гасцей.

Наша газета публікавала і водгукі чытачоў аб гэтых артыкулах. Жыхарка г. п. Целяханы Людміла Андрэеўна Жэўлакова (дарэчы, старажылка пасёлка) у сваім дамашнім архіве знайшла фотаздымкі і паштоўкі даваенай пары (1928—1930 гады), звязаныя з Агінскім каналам і Целяханамі. Сёння па яе згодзе мы змяшчаем некаторыя з іх у газеце.

**Святаслаў КАЖАДУБ.**
**г. п. Целяханы.**



**Восьмы шлюз на Агінскім канале ў Целяханах (1928 г.).**



**Прагулка на каяку (байдарка-двойка) па Агінскім канале ля Целяхан (1928 г.).**



**Так выглядала адна з цэнтральных вуліц (цяпер 17 верасня) мястэчка Целяханы ў 1928 годзе.**



**Польскія гарцэжы (па-нашаму піянеры) сфатаграфаваліся на плыце на азярцы ля Агінскага канала ў Целяханах (1928 г.).**

# Беларуская хрысціянская Царква

Язафат Кунцэвіч — архібіскуп Беларускае уніяцкае Царквы, таленавіты прапаведнік, якому Бог даў надзвычайную перакананасць і надзвычайную здольнасць пераконваць. Слова ягонае рабіла тое, што не па сілах аказалася нават каралеўскім указам.

У 43 гады ён быў забіты ў Віцебску.

Калі кінуліся ўніяты ды каралеўскія пасланнікі шукаць цела Язафата, то ўбачылі яны сноп святла: святло ішло проста з Дзвіны. Па гэтым святле і знайшлі цела. А было яно нятленнае, хоць колькі дзён у вадзе праляжала, і з раны на ілбе сачылася свежая кроў.

Праз год пачаўся беатыфікацыйны працэс па далучэнні Язафата Кунцэвіча да ліку святых.

А горад Віцебск быў пакараны зямным судом. Кароль пазбавіў яго магдэбургскага права і перадаў ваяводзе. І доўга пасля ляжаў на гэтай зямлі цень страшнага забойства.

Пра гэтага Беларускага Святога я даведалася толькі зараз, калі пражыла на свеце амаль паўвеку, і толькі тады, калі пабывала ў Берасцейскай хрысціянскай грэка-каталіцкай царкве Святых Братоў-Апосталаў Пятра і Андрэя.

Беларуская хрысціянская грэка-каталіцкая царква, або уніяцкая — гэта наша гісторыя і сучаснасць, якая адраджаецца. Унія — гэта аб'яднанне, супольнасць, мір, цярпімасць і дабрыня, што з'яўляецца адметнымі рысамі беларусаў. Гэта еўрапеізацыя краю, заўсёды схільнага да ўнутранай раўнавагі і спакойнай сузіральнасці.

Я ніколі не думала, што царква можа быць храмам-домам, культурным цэнтрам, дзе лёгка дыхаецца, дзе крышталізуюцца лепшыя якасці чалавека, дзе выхоўваецца любоў да гаротнай Беларусі, роднага слова і ў рэшце-рэшт выхоўваецца еўрапейскі густ.

Я, як глыбока веруючы ў душы чалавек, хадзіла ў праваслаўную царкву, дзе доўгае стаянне на нагах вельмі стамляла, не вельмі было зразумелым і вядзенне службы. Пару разоў пабыла ў баптыстаў, веру якіх я вельмі паважаю, але ўвесь час адчувала нейкі душэўны неспакой, мне здавалася, што гэта малітва не маё, мне хацелася ў царкве чуць сваё, беларускае слова, хацелася заспакоіць сваё стомленае сэрца, знайсці душэўны спакой.

І вось калі я нядаўна пераступіла парог Берасцейскай хрысціянскай грэка-каталіцкай Царквы, я зразумела, што гэта маё. Вельмі станоўча ўразіла невялікае, утульнае, без багатага аздаблення, але з еўрапейскім густам пабудаванае памяшканне.

Служба вядзецца на беларускай мове. Матыў малітваў пяшчотны, што нагадвае цячэнне ручайкоў, ціхенькае шапаценне лістоў на дрэвах...

Вернікі сядзяць, трымаючы ў руках малітоўнікі, якія дапамагаюць нават тым, хто першы раз прысутнічае, удзельнічае ў богаслужэбным працэсе. Праслаўляюць Госпада, моляцца за свае сем'і, дзяцей, за нашу шматпакутную Беларусь.

І вось тут мяне апаліла думка, што не ўсё страчана, што абудзімся мы, што будзе "мова наша — розуму і сэрца нашага паша-імшу святую за край наш родны адпраўляць, зумее Бога выслаўляць".

Пры ўзнаўленні нашай геннай памяці, з дапамогай маці Божае, абудзіцца беларускі народ, які будзе ганарыцца сваёй мовай, гісторыяй, культурай і сваёй царквой.

**Тамара ШЧАПЁТКІНА.**
**г. Бяроза.**

# РЫЦАРСКИЕ ЗАБАВЫ XXI ВЕКА

**9-10 июня в г.Мядель состоялся первый национальный рыцарский турнир "Меч Гедимина". Устроителями означенного средневекового действа выступили военно-исторический клуб Минская уния "Меч и ворон" и Мядельский горисполком. К сожалению, планируемое вначале широкое участие всех белорусских и ряда зарубежных клубов сорвалось. Из-за коммерциализации турнира некоторые старейшие рыцарские объединения объявили турниру бойкот. Тем не менее, количество приехавших было немалым. В числе официальных участников значился и клуб "Блудэнская харугва" из Берёзовского района.**



Тевтон и воин князя Миндовга.

Живописные берега Замкового острова озера Мястра на трое суток дали приют рыцарскому лагерю, куда вела через болото трёхсотметровая гать из свеженарезанных досок. Для неискушённого глаза это было поистине любопытное и странное зрелище: разноцветные шатры и палатки, блуждающие между ними отважные рыцари и прекрасные паненки, развевающиеся на ветру хоругви, сложенные у костров доспехи и оружие, крики чаек и распугивающие их звуки рога.

Утром 9 июня герольд протрубил общий сбор всех участников, после чего последовали тщательная проверка турнирного оружия и доспехов и распределение рыцарей по номинациям в зависимости от их экипировки. В полдень, громыхающая железом и сопровождаемая воинственными кличами, колонна рыцарей в полном боевом облачении двинулась сначала по гати, а затем и улицам Мяделя к месту ристалища - городскому стадиону. Здесь её уже поджидали и приветствовали зрители. Затем, в соответствии с программой, состоялась церемония открытия турнира — торжественное представление хозяев, почётных гостей и участников. По завершении церемонии наступило время поединков в двух номинациях: бойцы раннего Средневековья (VII-XI вв.) и бойцы, экипированные в духе XII-XIV веков. Несмотря на кажущуюся на первый взгляд театральность турнира, бои носили весьма ожесточённый характер, о чём свидетельствуют сломанные во множестве мечи и погнутые от ударов латы. В промежутках между номинациями рыцари тешили себя и зрителей турнирными играми.

Итог первому дню турнира подвёл салют, завершивший вечернее средневековое представление.

Второй турнирный день открылся с третьей номинации — рыцари XV-XVI веков. Это было, пожалуй, самое захватывающее зрелище. "Тяжёлые", закованные с ног до головы в железо рыцари, некоторые уже с поржавевшими доспехами, сражались храбро и отчаянно. Силы бойцам придавало то, что поединки посвящались находившимся здесь же дамам сердца.

Главные призы турнира — боевой меч и позолоченный перстень — достались в нелёгкой борьбе рыцарям из клуба-организатора "Меч и ворон". Несмотря на это, все остальные участники тоже очень многое приобрели: проверили прочность своих доспехов и оружия, боевую подготовку, соответствие костюмов выбранным историческим периодам, опыт участия в турнирах. Да и два дня, проведённых в атмосфере Средневековья и насыщенных подзабытыми в современном мире рыцарскими идеалами, — яркий и незабываемый праздник души. Что касается "Блудэнской харугвы", то меч рыцаря Борислава был одним из лучших на турнире, а вся остальная экипировка участников клуба на общем уровне тоже выглядела весьма и весьма достойно.



Николай Синкевич.

"Блудэнская харугва": г-жа Лукреция, славные рыцари Гамаюн и Борислав, г-жа Юстина, аббат братства Св. Брунона о. Николас.

**Николай СИНКЕВИЧ.**
**Берёза-Мядель-Ивацевичи.**

# ☎ У садку свабодных месц няма

## і, магчыма, не будзе

**"Добры дзень, паважаная "Газета для вас". Тэлефаную вам з вёскі Заполле Касаўскага сельсавета Івацэвіцкага раёна. Да выхаду ў дэкрэтны водпуск я працавала ў садаводчай брыгадзе нашага калгаса, а зараз, калі дзіцяці споўнілася тры гады, на работу не магу выйсці: у садку вёскі Заполля свабодных месц няма...**

**Валянціна Іванаўна СТАСЬ, жыхарка в. Заполле.**

На пытанне нашай чытачкі адказвае **Ларыса БАРЫСІК**, спецыяліст па дашкольнаму выхаванню аддзела адукацыі Івацэвіцкага райвыканкама:

— У той чарзе, якая ўтварылася ў дзіцячы садок вёскі Заполле, 13 чалавек. Садок расшырылі, як кажуць, па максімуму, і немагчыма дадаткова змясціць туды хоць адно дзіця.

Як выйсце, прапаную Валянціне Іванаўне вазіць дзіця ў Касаўскі дзіцячы сад, як возяць у гэты горад дзяцей бацькі з вёсак Рацкавічы, Бусяж, Хадоркі. Пасля можа вызваліцца месца ў запалянскім садку. Цудоўна разумею, што гэта не лепшая прапанова, але іншага выйсця не бачу...

# ☎ Смецце гарыць і гніе,

## а збор за вываз плаціць трэба...

**"Добры дзень, "Газета для вас!" Хачу вам расказаць пра сваю праблему. Прыйшла мне паперка, у якой паведамляецца, што я павінна заплаціць 15 чэрвеня г. г. 850 рублёў, 15 лістапада — 860 рублёў. Збор за вываз смецця. Але я не карыстаюся гэтай паслугай!**
**Усе тыя адходы, якія ёсць ці могуць быць на маім падворку, я выкарыстоўваю, і смецця ў мяне не можа быць у прынцыпе. Калі што-небудзь гніе, то складаю яго ў гумусную яму, калі можа гарэць, я кідаю ў печку і выкарыстоўваю пасля попел для падкормкі агароду. Калі ёсць які-небудзь каменьчык, цагліна, то я лепш дарожку змайструю...**

**Наталля Нікіфараўна, г. Івацэвічы, завулак Чапаева.**

На пытанне нашай чытачкі адказвае **Тамара ГРЫБОЎСКАЯ**, начальнік інспекцыі планавання і эканамічнага аналізу райфінаддзела Івацэвіцкага райвыканкама:

— Гаспадары кожнага двара ў індывідуальным сектары г. Івацэвічы павінны, сапраўды, два разы ў год аплаціць збор за вываз смецця. Сума — 15% ад мінімальнага заробку, тут улічваецца і колькасць пражываючых у тым або іншым доме. Ад платы вызвалены інваліды і ветэраны Вялікай Айчыннай вайны.

Усё гэта адбываецца паводле рашэння сесіі райсавета, таму павінна выконвацца. Што тычыцца гэтага канкрэтнага выпадку, то, прабачце, немагчыма ля кожнага падворку выставіць міліцыянера, каб ён кантраляваў, хто выносіць смецце, колькі раз, а хто зусім не выносіць. Тым больш, што збор за гэтую паслугу проста смешны...

**Падрыхтаваў Аляксандр ГОРБАЧ.**

◆

**Такі вось падыход. Мы, як сведчыць гэты інцыдэнт, спрабуем грошы лічыць і імі даражыць. Мясцовыя зборы, уведзеныя рашэннем райсавета, маюць сілу закона. Між тым, у рэдакцыю паступае шмат званкоў ад жыхароў горада і вёскі, якія прынцыпова не пагаджаюцца плаціць уведзены збор.**

**Таму жыхарка з завулка Чапаева павінна выказаць свае прэтэнзіі ў пісьмовым выглядзе ў райсавет дэпутатаў.**

# СВЯТА ЦІ ТРАГЕДЫЯ?

Праз некалькі дзён споўніцца 60 гадоў з дня пачатку Вялікай Айчыннай вайны. З якога боку ні ацэньвай гэтую дату, трагедыя застаецца трагедыяй. Мільёны жыццяў забрала вайна. У Беларусі загінуў кожны чацвёрты. У кожнай нашай сям'і і сёння з жахам помняць той чорны дзень.

Але, аказваецца, ёсць людзі, якія спрабуюць хаўтуры ператварыць у свята. Са здзіўленнем і жахам прачытаў у Івацэвіцкай раёнцы:

"Сёлета ў сувязі з юбілейнай датай пачатку вайны ў нашай рэспубліцы яна будзе адзначацца шырока і ўрачыста"

("Івацэвіцкі веснік" за 9 чэрвеня 2001 года)

Ці можна параўноўваць свята Перамогі з трагедыяй, якая прынесла людзям столькі гора? Ці можа быць святам пачатак найвялікшай трагедыі стагоддзя? Кожны нармальны чалавек адкажа: вядома — не. Мы павінны помніць гэтую дату, не забываць і тое, па чыёй віне пачалася кровапралітная вайна. А адзначаць? Гэта не прычына для вяселля.

Каму прыйшла ў галаву ідэя яшчэ аднаго "свята"? Шырока і ўрачыста, акрамя святога дня Перамогі, у нас адзначаюць дажынкі і выбары прэзідэнта, дзень незалежнасці і розныя "базары", усебеларускія сходы, з'езды розныя...

Святаў многа, а трагедыя мінулага стагоддзя для нашага народа — адна. І застанецца жахам, ад якога і сёння стыне кроў. Хто можа весяліцца ў такі дзень? Калі не вар'ят, дык хто?

**Мікалай ДЗМІТРУК.**
**г. Івацэвічы.**

# За падман — штраф

Наша газета па скаргах чытачоў некалькі разоў пісала аб тым, што ў Івацэвіцкім леспрамгасе (асабліва Целяханскі участак) вялікая запазычанасць па заработнай плаце. Пры тым выплачвалася яна з вялікімі затрымкамі. Як паведаміў раённы аддзел статыстыкі, ім атрыманы з леспрамгаса дадзеныя, што па стану на 1 мая 2001 года там няма запазычанасці па зарплаце, значыць, яна своечасова выплачвалася работнікам. Але праверка паказала, што ў тым жа леспрамгасе запазычанасць па заработнай плаце склала 10 мільёнаў 400 тысяч рублёў. Справу аб адміністрацыйным парушэнні разглядаў суд Івацэвіцкага раёна. Пастановай яго за скажэнне справаздачнасці галоўны бухгалтар леспрамгаса аштрафавана на 50 мінімальных зарплат.

**Сяргей СЛАВІНСКІ.**
**г. Івацэвічы.**

# Музейные экспонаты тоже можно грабить



Эта история началась ещё в январе этого года. Некто повадился в музей железнодорожной техники, что находится на ул. Фроленкова. Музей этот, как известно, располагается под открытым небом. Идея собрать для всеобщего обозрения старую железнодорожную технику принадлежит самому начальнику Белорусской дороги. И сейчас в Барановичах есть место, где можно лицезреть довоенные паровозы, дрезину и прочее. Но в один момент чья-то злодейская рука стала снимать те или иные запчасти с паровозов и других музейных экспонатов. Очень скоро стало ясно, что воруют предметы, содержащие цветные металлы.

Задержали воришек случайно. Начальник станции Барановичи-Полесские шёл с работы и обратил внимание, что вдоль забора музея прогуливается парень с саночками. А через некоторое время из паровоза вылезла троица с мешком. Мешок спешно был переброшен через забор и погружен на саночки. Но на этот раз ворам уйти не удалось.

Недавно четвёрке суд вынес приговор, все осуждены. За время своих набегов на музей они украли 24 колпака газораспределителей на сумму в 520 тысяч рублей.

**Галина СТРОЦКАЯ.**
**г. Барановичи.**

